



*Жыве Беларусь!*

# БЕЛАРУС

Address:
166-34 Gothic Drive
Jamaica, NY 11432

BIELARUS/Belarusan newspaper in Free World ISSN 1054-9455
Published by the Belarusan American Association, Inc.
bielarus@bazahq.org

№ 598 Сакавік, 2013 г.
Год выданьня 64

## Шаноўныя чытачы!

Прапануем вашай увазе трэці ў бягучым годзе выпуск нашай газэты. Гэта сакавіцкі нумар, і як штогод мы прысьвячаем яго нашаму вялікаму нацыянальнаму сьвяту – Дню Волі, а сёлета гэта яшчэ і юбілейная дата – 95-я ўгодкі абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. Мы падаем інфармацыі, як адсьвяткавалі Сакавік у нас, у Амэрыцы, і па цэлым сьвеце ў беларускіх асяродках.

Цяпер выглядае так, што гэтае Сьвята больш урачыста і шырока сьвяткуецца менавіта ў беларускім замежжы, бо на Бацькаўшчыне ўладаю чыняцца ўсялякія перашкоды і ўдзельнікі акцый жорстка перасьледуюцца. Варта нагадаць, што так было ў савецкія часы, калі 25 Сакавіка ўшаноўвала толькі эміграцыя і трымала традыцыю да таго часу, калі гэта сталася магчымым і ў самой Беларусі. Але варта падкрэсьліць і розьніцу. Зараз у замежжы сьвяткуе і працягвае тым важную традыцыю новае пакаленьне эміграцыі, якое прыйшло пераважна з самой Беларусі і там ужо навучылася шанаваць свае вялікія даты.

Асаблівую падзяку мы выказваем Натальлі Ганчарук з Філадэльфіі, якая даслала ў газэту свае зьмястоўныя развагі пра сьвяткаваньне, а таксама аўтарам вершаў Зьміцеру Якаўцаву і Арцёму Гусаку. Хацелася б, каб і іншыя нашы чытачы дзяліліся на старонках “Беларуса” сваімі думкамі і пачуцьцямі.

У сакавіку беларускія каталікі і пратэстанты адсьвяткавалі Вялікдзень і для іх мы падаем сьвяточны зварот айца Аляксандра Надсана з Лёндану.

На жаль, памер газэтных старонак не дазволіў падаць больш іншай інфармацыі і таму мы разьмясьцілі толькі самае патрэбнае і троху іншых невялікіх паведамленьняў.

*Рэдакцыя*

# Дзень Волі – 2013

## Сьвяткаваньне 95-х угодкаў абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі

### Беларусь



У Менску адбылося шэсьце і мітынг з нагоды 95-й гадавіны абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. У іх ўзялі ўдзел каля тысячы чалавек. Каля дзясятка чалавек былі затрыманыя пасьля сканчэньня мітынгу ў парку Дружбы народаў.

### Нью-Ёрк

Сьвяткаваньне адбылося ў грамадзкай залі Сабору сьв.Кірылы Тураўскага ў Брукліне. Ладзілі яго Бруклінскі аддзел БАЗА пры ўдзеле Галоўнай управы БАЗА і Парафіяльнай рады Сабору. Заля была поўная, прыйшло шмат моладзі з новай эміграцыі. Нават прыехала купа дзяўчат і хлопцаў з Філядэльфіі. Традыцыйна ўрачыстасьці распачаліся ў царкве, дзе пасьля ранішняй багаслужбы быў адслужаны малебен за беларускі народ. У залю былі ўнесены беларускі і амэрыканскі сьцягі, і ў гэткім сьвяточным абрамленьні прысутныя шчыра памаліліся за сваю Бацькаўшчыну і за яе лепшую будучыню, а напрыканцы з асаблівым натхненьнем разам засьпявалі “Магутны Божа”.

З прыўзьнятым сьвяточным настроем усе пайшлі ў грамадзкую залю, дзе мела адбыцца афіцыйная частка сьвята. Перад пачаткам усе прысутныя мелі магчымасьць падсілкавацца смачнымі стравамі, якія падрыхтавалі гасьцям нашы руплівыя жанчыны.

Ролі вядучых сьвяточнай імпрэзы выконвалі прадстаўнік старэйшага пакаленьня беларускай эміграцыі ў Амэрыцы Вячка Станкевіч і ад моладзі – Ганна Сакалоўская. Трэба адзначыць, што гэта была добрая задума, якая вельмі ўпрыгожыла праграму, бо абодва вядучыя выдатна выканалі свае ролі. Напачатку было зачытана прывітальнае слова ад Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвіллы, віншаваньні ад Згуртаваньня беларусаў сьвету «Бацькаўшчына», Таварыства беларускай мовы. Гэтым разам нью-ёркскія беларусы атрымалі віншаваньні таксамаі яшчэ ад 17 беларускіх суполак з розных краінаў сьвету, якія па чарзе прадставілі ўвазе слухачоў Ганна Сакалоўская і Раман Карп. Гэтыя прывітаньні нагадалі прысутным,

*Заканчэньне на 2-й бачыне*

# Нью-Ёрк


Ганна Сакалоўская і Раман Карп

Заканчэньне з 1-й бачыны

што ў той дзень па цэлым сьвеце беларусы сабраліся разам, каб адсьвяткаваць нашае вялікае нацыянальнае сьвята, што менавіта яно лучыць нас у адзіную сям'ю, у адзіную сілу, у адзіную магутную плынь.

У сваім рэфэраце пра Акт 25 Сакавіка старшыня Галоўнай управы БАЗА і сябра Прэзыдыюму Рады БНР Ганна Сурмач нагадала пра гісторыю аднаўленьня дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі.

Зь вялікай увагаю слухала моладзь зачытаны поўны тэкст Трэцяй Устаўной Граматы, праз якую абвяшчалася незалежнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі.



Былы шматгадовы старшыня Галоўнай управы БАЗА Антон Шукелойц у сваім выступе заклікаў прысутных згадаць і ўшанаваць імёны тых змагароў за незалежнасьць Беларусі, якія аддалі свае жыцьці ў барацьбе за ідэалы 25 Сакавіка.

Юрась Шамецька і дуэт "Кантабіле"



Эмацыйнае ўзрушэньне перажывалі прысутныя слухаючы выдатную дэклямацыю Галіны Пазьняк урыўка з паэмы Зянона "Вялікае Княства". Гэта сталася своеасаблівай мастацкай ілюстрацыяй да тых гістарычных падзеяў, якія давялося перажываць беларускаму народу на шляху да аднаўленьня сваёй дзяржавы.

Пасьля заканчэньня афіцыйнай часткі адбыўся сьвяточны канцэрт, у якім бралі ўдзел як беларусы зь Нью-Ёрку, так і госьці з Канады. Ульляна Дарагакупец парадавала слухачоў іграю на піяніна твораў Моцарта. Клясычную праграму працягнуў музычны дуэт «Кантабіле» ў складзе скрыпачкі Улады Шамецкі і гітарыста Міхася Рыкава, іхняе дасканалае выкананьне беларускіх і іншых клясычных мэлёдый моцна ўразіла прысутных. Улада Шамецька – прафэсійны музыкант, яе скрыпка ня проста іграе, яна – сьпявае ў чульлівых руках Улады. На жаль, як часта здараецца на эміграцыі, Улада мусіла зьмяніць прафэсію і займацца іншаю працаю, але талент не дае ёй забыцца на прызваньне музыканта і таму яны з Міхасём Рыкавым стварылі гэты музычны дуэт і часта іграюць для канадыйскіх беларусаў. Да іх далучыўся і муж Улады Юрась Шамецька, кампутаршчык па прафэсіі, у душы ён – лірык і піша вершы, выдаў свае паэтычныя зборнікі. У кампазыцыі з дуэтам ён чытае свае лірычныя вершы і цудоўна дапаўняе гэтую музычную праграму. Нью-ёрскія беларусы былі ім надзвычай удзячныя за канцэрт і за тое, што яны не пашкадавалі часу і сілаў, прыехалі з далёкай Атавы на аўтамабілі, каб сьвяткаваць разам з намі. Дуэт "Кантабіле" выпусьціў свой музычны дыск, і яго можна набыць у грамадзкай залі.

Прыемнай нечаканасьцю для прысутных сталася выступленьне маладога сябра Бруклінскага аддзелу БАЗА Віктара Пайлака, які пад гітару прасьпяваў некалькі беларускіх мэлёдый і выклікаў жывую зацікаўленасьць моладзі. Выглядае, што новы талент будзе запатрабаваны ў беларускай грамадзе ў Нью-Ёрку.

Сьвята скончылася ў прыемнай атмасфэры, людзі не сьпяшаліся разыходзіцца, размаўлялі, знаёміліся. Не хацелася адыходзіць і выносіць навонкі тое пачуцьцё нацыянальнай еднасьці, годнасьці, якое нарадзілася ў сэрцах. Сакавік – наша Сьвята!

*Ганна Сурмач*


Антон Шукелойц

Ульляна Дарагакупец



Віктар Пайлак



Здымкі Зьмітра Шчыгельскага

# Людзьмі звацца...

Пішу гэты артыкул, успамінаючы сьвяткаваньне Дня Волі ў залі беларускага цэнтру ў Нью-Ёрку 24 сакавіка 2013 года. Думаю, усе пагодзяцца са мною, што ў памяці ўсіх удзельнікаў той дзень назаўсёды застанецца сьветлым і сьвяточным, сапраўды беларускім, сапраўды свабодным! Асабіста для мяне ён запомніцца сакавітай мілагучнай мовай Галіны Пазьняк, падобнай да гучаньня казак дзяцінства на беларускім радыё. Адданасьцю сваёй справе, верай у сьветлае будучае, што гучалі ў прывітальным слове Тацьцяны Красоўскай, у рэфэраце Ганны Сурмач. Мы, маладое пакаленьне беларусаў у эміграцыі, павінны вучыцца ў іх, як трэба паважаць і шанаваць сваіх продкаў, народныя традыцыі і культуру, зьберагаць найвялікшы дар – беларускую мову! Запомніцца мне і музыка гасьцей з Канады, што кранае струны тваёй душы.

Я думаю, што яшчэ доўга гэты дзень будзе ўзбуджаць душы беларусаў-эмігрантаў і натхняць іх на прачытаньне беларускіх кніг, на напісаньне вершаў на беларускай мове. А для мяне асабіста - на стварэньне лялек у народных строях і вышыванак крыжыкам зь беларускім арнамэнтам.

Добра вядома, што па-сапраўднаму адчуваеш Радзіму толькі ўдалечыні. Як хочацца часам тут, за мяжой, пачуць гучаньне роднай мовы ў песьнях і вершах. У кожнага з нас здараецца хвіліна смутку, калі на памяць прыходзяць усе самыя цікавыя і запамінальныя, уражлівыя і пяшчотныя, вялікія і дробныя малюнкі роднага краю.

Хачу сказаць Вялікі Дзякуй усім арганізатарам Дня Волі 24 сакавіка ў Нью-Ёрку, хто нейкім чынам браў удзел у стварэньні і правядзеньні гэтага цудоўнага дня, ад маладых беларусаў з Філядэльфіі Натальлі Ганчарук, Натальлі Лукашэні, Сьвятланы Шырвель і Алены Літоўкі. Мы і іншыя беларусы з розных куткоў Амэрыкі мелі магчымасьць на некалькі гадзін апынуцца ў непаўторнай атмасфэры гучаньня беларускай мовы, музыкі і новых прыемных сустрэч.

Пасьля такіх мерапрыемстваў заўсёды пытаеш сам сябе : “Што зьмянілася ў жыцьці беларусаў?” А асабіста маё пытаньне:”Ці ўмеем мы напраўду быць свабоднымі перад самімі сабой?” Я абмінаю тут пытаньне ўплыву на нашы свабоды, улады, што пануе на Беларусі...

Седзячы ў залі на Дзень Волі, мой сябра з Філядэльфіі Сяргей Фралоў падзяліўся са мной сваім любімым вершам М. Багдановіча “Народ, Беларускі народ!”. Хачу нагадаць некалькі радкоў:

*Народ, Беларускі народ!*
*Ты - цёмны, сляпы, быццам крот,*
*Табою ўсягды пагарджалі,*
*Цябе не пушчалі з ярма,*
*І душу тваю абакралі*
*Ў ёй нават мовы няма...*

Мы з Сяргеем паглядзелі на дату напісаньня - 1913 год... Прайшло роўна адно стагодзьдзе, а мы, беларусы, так і засталіся ў многім сьляпыя. Пачынаць трэба з асновы, з вытокаў, з каранёў. Ф.Багушэвіч пісаў: ”Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!”

Свабода і сіла наша як нацыі ў роднай мове, атрыманай намі ў спадчыну. На сёньняшні дзень адбываецца занядбаньне роднай мовы, губляньне сваіх каранёў.

Нашы продкі аддавалі за мову жыцьцё, выпрабоўвалі за яе свой лёс. Варта назваць імёны



*Паштоўка БНР*

Ф.Скарыны, К.Каліноўскага, В.Ластоўскага, братоў Луцкевічаў, Я.Купалы, Я.Коласа. Сёньня мы маем магчымасьць размаўляць на роднай мове. Але ня робім гэтага, саромеемся і сьвядома адракаемся ад яе.

Наша Радзіма - гераічная і шматпакутная зямля. Безьліч разоў грукалі па ёй калясьніцы войнаў. Мы атрымалі ў спадчыну нашу мову праз безупынную барацьбу за яе існаваньне. Колькі намаганьняў было зроблена, колькі лёсаў зламана, колькі пагрозаў, забаронаў, зьняволеньняў, ганеньняў было пераэжыта. І нашы самыя добразычлівыя, працавітыя, сумленныя і мужныя беларусы выстаялі! Дзякуючы іх самаадданасьці і разуменьню сваіх каранёў мы маем права на бел-чырвона-белы сьцяг, права ганарыцца самабытнасьцю сваёй мовы, культуры, традыцый, права звацца беларусамі, альбо як пісаў яшчэ ў 1907 годзе Я.Купала, “людзьмі звацца”.

У плыні надзённай працы, праблемаў і клопатаў мы часта забываемся і нават губляем панацьце нашых вытокаў, нашых беларускіх каранёў і проста мітусімся ў віры такога бессэнсоўнага, на мой погляд, жыцьця. Бо які дуб-волат можа быць бяз моцных, добра ўчэпленых за зямлю каранёў. Няма сэнсу існаваньня, калі забыты вытокі, калі страчаны мова, традыцыі, культура... Сорамна будзе глядзець у вочы будучаму пакаленьню.

На сёньняшні дзень на нашых землях пануе чужынец. Таму мы яшчэ болей павінны клапаціцца пра захаваньне сваёй беларускасьці і змагацца за яе існаваньне, як і стагодзьдзе таму... Прыкра пра гэта казаць, але гэта наша рэальнасьць.

Я хачу зьвярнуцца да маіх аднагодкаў-беларусаў, што жывуць у Беларусі альбо за яе межамі. Дзеля тых, хто рупліва змагаўся за наша слова, хто выстаяў, дзеля павагі да іх і да самых сябе, наш сьвяты абавязак навучыць нашых дзетак быць беларусамі. А для гэтага нам самім неабходна свабодна валодаць беларускай мовай і захоўваць скарбы нашай самабытнай культуры.

Мы - беларусы! З гонарам прамаўляць гэтыя словы - і ёсьць быць свабоднымі, альбо “людзьмі звацца”!

*Натальля Ганчарук,*
*Філядэльфія*

# Саўт-Рывэр

23 сакавіка ў Саўт-Рывэры (штат Нью-Джэрзы) прайшло ўрачыстае сьвяткаваньне 95-х угодкаў абвяшчэньня незалежнасьці БНР. На флагштоку каля будынка гістарычнага музэя на Мэйн-стрыт залуналі два нацыянальныя сцягі: амэрыканскі і беларускі бел-чырвона-белы. Чалец Гарадзкой управы Мэцью Вон ад імя мэра горада зачытаў праклямацыю пра абвяшчэньне ў Саўт-Рыверы дня 25 Сакавіка Днём Беларускай Незалежнасьці.

Удзел у цырымоніі ўзялі прадстаўнікі гарадзкой управы, беларуска-амэрыканскіх арганізацый, прыхаджане царквы св. Эўфрасіньні Полацкай, прыватныя асобы. Пасьля гэтага ў будынку Беларуска-Амэрыканскага Цэнтра прайшоў традыцыйны пачастунак гасьцей з гутаркамі на беларуска-амэрыканскія тэмы.

Беларускі дзень урачыста ў прысутнасці гарадзкіх уладаў, з узьняцьцем бел-чырвона-белага сьцяга, адзначаюць у Саўт-Рывэры ад канца 1950 гг., бо ў гэтым горадзе жыве шмат беларусаў.

# Каліфорнія



Сябры Гуртка БАЗА ў Каліфорніі па свойму адсьвяткавалі Дзень Волі ў Maryna Del Rey.

# Мінесота

Як паведаміў нам а. Ігар Лабацэвіч, беларусы Мінесоты адзначылі Дзень Волі малебнам за Беларусь у грэка-каталіцкай царкве Сьв. Яна Хрысьціцеля ў Мінеапалісе. Пасьля супольнай малітвы адбылося прыняцьцё і прагляд фільму "Чужая Бацькаўшчына" паводле аднайменнай кнігі Вячаслава Адамчыка.



# Вашынгтон



Школа міжнародных дачыненьняў Джорджтаўнскага ўнівэрсытэта ў Вашынгтоне пры падтрымцы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў дзень абвяшчэньня незалежнасьці БНР правяла дыскусію па пытаньнях беларуска-амэрыканскіх дачыненьняў.

У абмеркаваньні бралі ўдзел амэрыканскія спэцыялісты, якія па сваіх напрамках вызначаюць палітыку ЗША ў дачыненьні Беларусі: дырэктар офіса па эўрапейскіх справах бюро па дэмакратыі, правах чалавека і працы Дзяржэдэпартамэнта Майкл Уехара, дарадца Хельсынскай камісіі Кангрэса ЗША Орэст Дэйчакіўскі, прэзыдэнт праваабарончай арганізацыі Freedom House Дэвід Крэймер. Да дыскусіі далучыўся таксама дырэктар Беларускага інстытуту навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку Вітаўт Кіпель.

Дыскусія выклікала цікавасьць з боку студэнтаў гэтай адной з самых прэстыжных школаў міжнародных дачыненьняў у сьвеце. Да таго ж паслухаць меркаваньні выбітных спэцыялістаў прыйшлі таксама прадстаўнікі іншых установаў выканаўчай і заканадаўчай улады ЗША, недзяржаўных і праваабарончых арганізацый Вашынгтона. З розных штатаў краіны спецыяльна прыехалі прадстаўнікі беларускай дыяспары.

Замежнапалітычны парадак дня Злучаных Штатаў насычаны самымі рознымі праблемамі: канфлікт у Сірыі, ядзерная праграма ў Іране, агрэсіўная палітыка Паўночнай Карэі, сытуацыя ў Іраку і Афганістане, пытаньні разьвіцьця бедных краін, кліматычныя зьмены, правы чалавека. Усе гэтыя і многія іншыя пытаньні становяцца прадметам вывучэння Школы. Сёньняшнія студэнты — гэта практыкі заўтра, якія на аснове атрыманых ведаў будуць уплываць на палітыку ЗША і рэалізоўваць яе. Выкладчыкі Школы — часта людзі, якія займалі ці рыхтуюцца заняць адказныя пасады ў дзяржаўных установах ЗША. Так, у Школе выкладае былая дзяржсакратар Мадлен Олбрайт, нядаўна быў прызначаны на пасаду міністра абароны прафесар Чак Хэйгел, выпускнік Школы Дэніс Макдонаў — кіраўнік адміністрацыі Абамы.

Адметна, што ў акадэмічным асяродзьдзі цікавасьць да Беларусі абумоўліваецца ў значнай ступені дыскусіяй аб тых прававых механізмах і дыпляматычных інструментах, якія варта ўжываць датычна аўтарытарных і дыктатарскіх рэжымаў. Пад час абмеркаваньня 25 сакавіка тэма санкцый супраць рэжыму Лукашэнкі была асабліва заўважнай. Выступоўцы пагадзіліся, што санкцыі неабходна захаваць і зрабіць іх больш дзейснымі. Адзначана роля Эўразьвязу, які праз пашырэньне гандлю зь Беларусьсю падрывае эфэктыўнасьць сваіх уласных захадаў супраць рэжыму. ЗША актывізуюць каардынацыю палітыкі зь ЕС з тым, каб іх захады датычна рэжыму Лукашэнкі былі дзейснымі. На погляд экспэртаў, калі б не санкцыі Захаду і іншыя інструмэнты ціску, сытуацыя ў Беларусі магла б быць значна горшай. Разам з тым відавочна, што Лукашэнка па сваёй прыродзе ня здольны дэмакратызавацца, аднак пэўныя станоўчыя крокі ён можа зрабіць. І такія крокі варта заўважаць і заахвочваць.

Дэвід Крэймер лічыць, што Беларусь у сваім рэгіёне, дзе нямала аўтакратый, вылучаецца жорсткасьцю рэжыму ў стаўленьні да свайго народа. Да таго ж рэжым Лукашэнкі фактычна экспартуе свае дыктатарскія мэтады і падыходы, і, адпаведна, зьяўляецца пагрозай для рэгіёну і для ўсяго сьвету. Дарэчы, тэзыс пра ўплыў кепскага прыкладу беларускай дыктатуры набывае ўсё больш трывалае гучаньне: рэжым Лукашэнкі — гэта ня мяккая вэрсія дыктатуры, а рэальная пагроза.

Майкл Уехара падкрэсьліў, што з прыходам Джона Кэры на пасаду дзяржаўнага сакратара палітыка ЗША ў дачыненьні Беларусі застаецца нязьменнай. У Беларусі існуе цэлы шэраг праблемаў з правамі чалавека: свабодай СМІ, вяршэнствам права, адсутнасьць выбарчай канкурэнцыі і іншыя. Злучаныя Штаты назіраюць у Беларусі стагнацыю і рэпрэсіі і будуць надалей дапамагаць грамадзянскай супольнасьці і сродкам масавай інфармацыі.

ЗША працягваюць захоўваць глыбокую занепакоенасьць наяўнасьцю палітзьняволеных у Беларусі і заклікаюць да іх неадкладнага вызваленьня. Адметна, што пад час сустрэчы перад прысутнымі былі зачытаны імёны ўсіх беларускіх палітзьняволеных, якія да гэтага часу застаюцца за кратамі.

Закранаючы пытаньне пра саміт Усходнеэўрапейскага партнёрства ў Вільні восеньню гэтага года, Дэвід Крэймер выказаў меркаваньне, што на яго нельга запрашаць прадстаўнікоў беларускай улады. Праз свой удзел у злачынствах рэжыму Уладзімір Макей павінен застацца ў сьпісе неўязных, мяркуе Крэймер. Калі рэжым хоча выязнога міністра замежных справаў, яму варта прызначыць іншую асобу. Будзе правільна, калі Беларусь на саміце будзе прадстаўляць грамадзянская супольнасьць.

Абмеркаваньне паказала, што ЗША захоўваюць пасьлядоўна прынцыповую пазыцыю датычна рэжыму Лукашэнкі. Для большай яе дзейснасьці неабходна каардынацыя з Эўразьвязам, і ЗША прыкладаюць дадатковыя намаганьні ў гэтым накірунку.

Разам з тым станоўчыя крокі Беларусі па вырашэньні хранічных праблем — палітзьняволеныя, умовы правядзеньня выбараў, свабода СМІ і іншыя пытаньні — не застануцца незаўважанымі.

*Валер Кавалеўскі*

# Нью Джэрзы




24-га сакавіка ў Нью-Джэрзы беларусы адзначылі 95-я ўгодкі абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі.

Сьвяточны дзень распачаўся з раніцы ў царкве Жыровіцкай Іконы Маці Божай у Гайлэнд Парку. Сьвятар Беларускай Аўтакефальнай Царквы айцец Зінові адправіў малебен за Беларусь ды ўвесь беларускі народ і павіншаваў з Днём Волі.

Па паўдні, перабраўшыся ва ўтульную і ветлівую залю гатэля Hyatt, што ў Нью-Брансуіку, ізноў жа айцец Зінові адкрываў афіцыйную частку мерапрыемства вітальным словам і малітваю.

Традыцыйна віталі беларусаў са сьвятам прадстаўнікі амэрыканскай улады. Віншаваньні ў гэтым годзе даслалі кангрэсмэн Крыс Сьміт, сэнатары Франк Лаўтэнбэрг і Робэрт Мэнэндэс ды губэрнатар Крыс Крысьці.

Пасьля амэрыканскага гімну ў выкананьні Волі Казак выступілі з прамовамі старшыня Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня Нью-Джэрзы Юрка Азарка і намесьнік старшыні Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня "Пагоня" Яўген Барысевіч.

Канцэртна-сямейнае трыа ў складзе Алеся Казака, Вялянціны Пархоменкі і Волі Казак прасьпявала вядомыя ўсім беларусам мелёдыі.

Скончылася сьвяткаваньне выкананьнем беларускіх гімнаў «Магутны Божа» і «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

# Таронта



*Птушкі Волі*

24 сакавіка Згуртаваньне беларусаў Канады адзначыла ў Таронта 95-я ўгодкі абвяшчэньня Беларускай Народнай Рэспублікі.

Ва ўрачыстым сходзе прыняло ўдзел каля паўсотні асобаў. І што прыемна, было бачна шмат моладзі. Напачатку былі агучаны віншаваньні ад Старшыні Рады Беларускае Народнае Рэспублікі Івонкі Сурвіллы, Старшыні Кансэрватыўна-Хрысьціянскае Партыі Беларусі Зянона Пазьняка, Старшыні Таварыства Беларускае Культуры ў Летуве Хведара Нюнькі і інш.

Галоўнай тэмай сьвяточнай імпрэзы стала 150-годзьдзе паўстаньня пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. Кожны з удзельнікаў ўрачыстага сходу атрымаў заранёў падрыхтаваную і раздрукаваную інфармацыю, маючую дачыненьне да падзеяў таго часу. У скančэньне расповяду пра паўстаньне дакладчык Алесь Кот прадэманстраваў фотаздымак свае прабабулі Насты Кот, народжанае ў 1854 у вёсцы ля Пружанаў, якая была сьведкаю падзеяў тых часоў і пазьней неаднаразова распавядала сваім дзецям і ўнукам пра тое, як паўстанцы наведвалі вёску, прасілі дапамагчы параненым, а таксама атрымлівалі ад сялянаў вёскі харчаваньне.




Сярод удзельнікаў сходу быў распаўсюджаны матэрыял "За Родную Мову!", у які ўвайшоў ліст-зварот Зянона Пазьняка "Забіць цмока" . Істотным момантам ўрачыстасьцяў сталася прэзэнтацыя-выстава-продаж кніжак, часапісаў і брашураў выдавецтва "Беларускія Ведамасьці" Варшава - Нью Ёрк - Вільня. Многія ўдзельнікі падыходзілі да стала, з цікавасьцю гарталі выданні, шмат кніжак знайшлі сваіх чытачоў-уладальнікаў.

Быў паказаны кліп "Ляпіса Трубяцкога" - «Ня быць скотам» і мультфільм «Будзьма беларусамі!».

Падчас імпрэзы адбылася тэлефонная размова з Паўлам Севярынцам, у якой ён павіншаваў беларусаў Канады са сьвятам і падзякаваў за падтрымку.

Сёлета Згуртаваньне беларусаў Канады павіншавала палітвязьняў з Днём Волі самаробнымі паштоўкамі і сымбалічнымі птушкамі Волі, зробленымі адмыслова да сьвята сябрамі ЗБК. Сьвяткаваньне скончылася гімнам «Магутны Божа».

*Здымкі Алены Лявончанкі.*




# Аттава




Беларусы Аттавы 6 красавіка 2013 года сьвяткавалі 95-я ўгодкі абвяшчэньня Беларускай Народнай Рэспублікі. Сьвята праходзіла ў City Hall сталіцы Канады.

У праграме былі:

- сьвяточныя віншаваньні ад старшыні Рады БНР, якія зачытаў сп. Пётра Мурзёнак, а таксама выступ старшыні Згуртаваньня Беларусаў Канады, сп. Валянціны Шаўчэнка;
- далей, сп. Івонка Сурвілла зрабіла інфармацыю пра свой нядаўні візыт у Прагу, дзе яна прыняла ўдзел ва ўрачыстых сьвяткаваньнях, а таксама мела важныя сустрэчы з палітычнымі дзеячамі, уключна з міністрам замежных справаў Чэхіі сп. Шварцэнбергам. Трэба адзначыць, што сп. Сурвілла падрыхтавала постэры са здымкамі, якія з задавальненьнем разглядалі прысутныя;
- адбылася кароткая прэзэнтацыя новага вэб-часопіса "САКАВІК" (http://www.sakavik.net/), якую зрабіў рэдактар і заснавальнік часопіса сп. Пётра Мурзёнак;
- прайшла традыцыйная беларуская дыктоўка, у якой прынялі ўдзел шмат прысутных; на гэты раз дыктоўка была прысьвечана 175-м угодкам з дня нараджэньня Кастуся Каліноўскага і 150-годзьдзю паўстаньня на Беларусі. Урывак з газэты "Мужыцкая праўда» №2 прадыктавала сп. Галіна Тумiловiч;
- у сьвяточным канцэрце бралі ўдзел Валяніціна Шаўчэнка (рамансы), Юрась Шамецька (вершы) ў суправаджэньні інструмэнтальнага дуэта "Кантабіле" ў складзе Уляды Шамецькі і Міхаіла Рыкава, і дзве пары танцораў: Ірэна і Уладзімір Клімковічы, Агата Логвін і Алесь Ціпенка.

Пад час сьвята і пасьля ўдзельнікі частаваліся кавай і прысмакамі, ды шчыра размаўлялі пра сваю Бацькаўшчыну і пра сваё жыцьцё.

*Пётра Мурзёнак*

# Варшава

У польскай сталіцы 23 сакавіка каля ста чалавек узялі ўдзел ў шэсьці па вуліцах Варшавы з нагоды 95-й гадавіны абвяшчэньня Беларускай Народнай Рэспублікі. А 13-й гадзіне беларусы Варшавы сабраліся на плошчы Трох Крыжоў. Над удзельнікамі шэсьця луналі дзясяткі бел-чырвона-белых палотнішчаў, а таксама сьцягі Польшчы і Эўразьвязу.

Шэсьце пачалося а 13.30 па так званым Каралеўскім тракце — вуліцамі Новы Сьвет і Кракаўскае прадмесьце ў цэнтры Варшавы. А 14.00 на Замкавай плошчы ў Старым горадзе пачаўся мітынг, дзе выступіў старшыня КХП-БНФ Зянон Пазьняк: "Мы цяпер у такой сытуацыі, што можам разьлічваць перадусім на ўласныя сілы. Памятайма пра гэта. Няхай прыкладам нам будуць нашыя героі, якія змагаліся ў 1918 годзе, і тыя людзі, што дамагліся незалежнасьці ў 1991-м".

Прамаўлялі таксама Зьміцер Барадка ды Натальля Радзіна. Прысутныя дзякавалі за салідарнасьць палякам, скандуючы па-польску "Менск і Варшава — супольная справа". Пасьля мітынгу можна было пачаставацца беларускімі стравамі.

# Беласток і Бельск Падляшскі

Беларусы Падляшша таксама адсьвяткавалі 95-я ўгодкі БНР. Галоўнае мерапрыемства прайшло ў Цэнтры імя Людвіка Заменгофа ў Беластоку. У праграме сьвяткаваньня былі гістарычная прэзэнтацыя і выступ моладзі зь мініяцюрамі памерлага сёлета Сакрата Яновіча, а таксама выступ гарадзенскага гурта “Людзі на балоце”. Арганізатары падрыхтавалі ўзнагароды ў выглядзе бел-чырвона-белых букетаў тым асобам, якія працуюць для разьвіцьця беларускасьці на Падляшшы. Ліцэісты і гімназісты з Бельска-Падляшскага супольна адсьвяткавалі Дзень Волі ў Цэнтры адукацыі і прамоцыі беларускай культуры ў Шчытах-Дзенцялове.

Прафэсар Алег Латышонак расказаў пра падзеі, зьвязаныя зь беларускім рухам на Бельшчыне. Паводле яго, моладзь мала ведае пра тое, што адбылося 25 сакавіка 1918 года: “Гэта натуральны працэс, бо чым далей ад падзеі, тым менш яна закранае сэрца. 20 гадоў таму мы яшчэ ведалі людзей, якія змагаліся са зброяй у руках за 25 Сакавіка. Беларускіх партызанаў зь Белавежскай пушчы яшчэ маглі сустрэць жывымі. Таму для нас гэта была сямейная гісторыя. А цяпер маладыя людзі гэта трактуюць як нешта, што было невядома калі, што ня тычылася ні іх, ні іхніх бацькоў”. Вучні бельскіх школаў прыехалі ў Шчыты, каб адзначыць Дзень Волі на запрашэньне Зьвязу беларускай моладзі. Ліцэісты, гімназісты і сябры Зьвязу паглядзелі дакумэнтальны фільм Міколы Ваўранюка “Беларусь і шлях да незалежнасьці”. Завяршылі сьвяткаваньне пры вогнішчы.

# Гданьск

Беларусы Памор'я адзначылі ўгодкі абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі спачатку на гарнізонных могілках Гданьска каля магілы аднаго з заснавальнікаў БНР Лукі Дзекуця-Малея. Былі ўскладзены кветкі ды запалены зьнічы, пра гэта паведаміла старшыня Беларускага культурнага таварыства “Хатка” ў Гданьску Алена Глагоўская:

«Пасьля паехалі пад камень Купалы і там таксама ўсклалі кветкі. Наша Аня Куклік прасьпявала песню “Явар і каліна”, каб добра явар і каліна расьлі, якія мы пасадзілі ў 2010 годзе. Прачыталі верш Янкі Купалы 1920 года “25 сакавіка”. А затым сустрэліся ў сядзібе нашага Таварыства, дзе працягнулі сьвяткаваньне”.

Быў зачытаны тэкст Трэцяй Устаўной граматы, прыгадалі, як сьвяткавалі ўгодкі БНР, пачынаючы з 1920 года ў Менску, у Вільні і Празе. На імпрэзе прысутнічаў сын рэлігійнага дзеяча, паэта і публіцыста Міколы Дварэцкага, які апошнія гады жыцьця правёў у Лембарку непадалёк ад Гданьска, дзе зьбіраў аднадумцаў і сьвяткаваў 25 Сакавіка.

# Прага



Сёлета ў Празе сьвяткаваньне 25 Сакавіка прайшло асабліва ўрачыста, адбывалася яно зь непасрэдным удзелам Старшыні Рады БНР сп-ні Івонкі Сурвіллы, вядомых асобаў зь Беларусі і з эміграцыі, а таксама даволі шматлікай беларускай грамады ў Чэхіі.

Афіцыйнае сьвяткаваньне праходзіла 23-га сакавіка. Спачатку праскія беларусы і госьці сабраліся на Альшанскіх могілках, каб ушанаваць памяць прэзыдэнтаў Рады БНР Пётры Крэчэўскага, Васіля Захаркі і сьпевака Міхася Забэйды-Суміцкага. Айцец Андрусь Абламейка правёў традыцыйную паніхіду, беларусы разам засьпявалі малітву "Вечная памяць" і гімн "Магутны Божа". Каля могілак прамаўлялі Старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла, былы старшыня БНФ Вінцук Вячорка, украінскі сябра Олег Зайнулін і журналістка Радыё Свабода Алена Ціхановіч.

Цэнтрам сьвяткаваньня сталася ўрачыстае пасяджэньне, прысьвечанае Дню Волі. З кароткімі прамовамі выступілі сп-ня Івонка Сурвілла, намесьнік Старшыні Рады БНР Сяргей Навумчык, пісьменьнік Уладзімір Арлоў і Вінцук Вячорка. Таксама выступіў Уладзімір Барадач - адзін са стваральнікаў БЗВ, а цяперашні эмігрант і актыўны беларускі палітык у Нямеччыне. Былі зачытаныя прывітаньні ад Зянона Пазьняка і Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня.

Пасьля ўрачыстага пасяджэньня адбыўся канцэрт, дзе выступілі сьпявачка Весна Касэрас і рэпэр Вінсэнт.

У той жа дзень, 23-га сакавіка, прайшло ўрачыстае адкрыцьцё Беларускай Клюбоўні ў Празе ў новым памяшканьні (адрас: вул. 5. května 1043/32). Гэта падзея ўвайшла ў праграму сьвяткаваньня Дня Волі і стала яе завяршальнай часткай. Паглядзець на новую Клюбоўню прыйшлі каля ста чалавек, у тым ліку шмат дзяцей. Панавала вясёлая сьвяточная атмасфэра.





Івонка Сурвілла, Сяргей Навумчык, Вінцук Вячорка, Уладзімер Арлоў і Уладзімер Барадач урачыста перарэзалі бел-чырвонабелую стужку і тым самым адкрылі Клюбоўню.

Сп. Івонка Сурвілла ўзяла ўдзел у пасяджэньні Рады Клюбоўні.

Акрамя шырокіх кантактаў зь беларусамі ў Чэхіі і ўдзелу ў праграме сьвяткаваньня 95-х угодкаў абвяшчэньня незалежнасьці БНР старшыня Рады сп. Івонка Сурвілла мела плённую сустрэчу зь міністрам замежных справаў Чэскай рэспублікі сп. Карлам Шварцэнбэргам, які на нядаўніх прэзыдэнцкіх выбарах кандыдаваў на прэзыдэнта.

Пра вынікі перамоваў сп. Сурвілла распавяла ў жывым этэры Беларускай Рэдакцыі Радыё Свабода. Яна у прыватнасьці сказала: «Мы пачалі ад пытаньня Незалежнасьці Беларусі, узгадалі дасягненьне нашае леташняе — «Віленскі Мэмарандум» за Незалежнасьць, а таксама заўважылі, да якой ступені апазыцыя зьядналася для падпісаньня гэтага вельмі важнага для нас дакумэнту. Закранулі тэму Расеі і яе ўплыву на Беларусь, было прыемна адчуць, што спадар Шварцэнбэрг вельмі добра гэтую праблему ўсьведамляе. Гаварылі мы і пра Шэнгенскія візы для грамадзянаў Беларусі».

Сьвяточныя падзеі ў Празе і гэтым разам пацьвердзілі, якім важным чыньнікам нашай ранейшай і сучаснай гісторыі зьяўляецца Чэхія і старажытная Прага, дзе беларусы заўсёды знаходзяць разуменьне і падтрымку.

# Калінінград

Малебнам за беларускі народ распачалася ўрачыстая імпрэза ў гонар 95-х угодкаў абвяшчэньня БНР ў Караляўцы (сучасны Калінінград). Праводзіў імшу сьвятар грэка-каталіцкага прыхода імя св. Эўфрасіньні Полацкай айцец Кірыл Міронаў. Пад час сьвяточнай вечарыны былі заслуханыя віншаваньні ад нашых сяброў з Літвы, Эстоніі і Беларусі. Прагучалі цікавыя выступы сябраў Таварыства: Цімура Процкага, Уладзіміра Юшкевіча, Тацьцяны Рокач. Фільм “Далёка нам яшчэ да Беларусі” голасам нашага сябра гісторыка Уладзіміра Арлова ажывіў храналёгію падзеяў таго часу. Як заўжды, песьні ў выкананьні Міхася Галубкіна і Міхася Лішаёва ўнесьлі непаўторны музычны каларыт у акадэмічную атмасфэру сьвята. І ўжо па традыцыі вечарына завяршылася смачнымі пачастункамі ды размовамі між удзельнікамі і гасьцямі Таварыства.

# Вільня



*Ля помніка братам Луцкевічам*

Беларускае грамадзтва Вільні шырока адзначыла 95 гадавіну абвяшчэньня Беларусі незалежнай дзяржавай. Сабраліся ўсе, для каго Беларусь застаецца ў сэрцы, і сьцьвердзілі, што абвешчаныя 95 гадоў таму назад ідэалы пабудовы незалежнае, беларускае дэмакратычнае дзяржавы жывыя да сёньня і чакаюць свайго поўнага ўвасабленьня ў жыцьцё.

Трэба адзначыць, што традыцыя сьвяткаваньня ўгодкаў абвяшчэньня БНР у Вільні мае глыбокія карані і штогод сьвяткавалася ў Вільні, па сутнасці, ад самаго моманту абвяшчэньня. У міжваеннай Польшчы гэта было самае вялікае беларускае сьвята, якое аб'ядноўвала беларусаў розных накірункаў і зьбірала ў адну супольнасьць.

У 1924 г. адна беларуская газэта Вільні так апісвала сьвяткаваньне шостай гадавіны абвяшчэньня БНР: "А 10 гадзіне раніцы (…) пайшлі ў касьцёл Св. Міколы, куды сабралася ўсё беларускае грамадзянства. Урачыстую Мшу адправіў Прафэсар Віленскае каталіцкае семінарыі кс. Я. Рэшуць. Натхнёнае слова навукі сказаў кс. Адам Станкевіч на эвангельскі тэкст: „Шчасьлівыя шукаючыя і прагнучыя справядлівасьці, бо тыя насыцяцца". Аб 11 гадзіне ўсё грамадзянства і вучні сабраліся ў царкве Сьв.-Траецкіх муроў, дзе Архімандрыт Піліп у саслужэньні з Архімандрытам Палікарпам і чатырма сьвяшчэньнікамі адправіў урачысты малебен. (…) Перад пачаткам малебну слова сказаў сябра Духоўнай кансысторыі сьвяшчэньнік А. Сурвіла. Эвангельле было прачытана і мнагалецьце сказана ў беларускай мове. Пяяў хор вучняў Духоўнай Сэмінарыі, а малітву за Бацькаўшчыну выканаў хор Драматычнай майстэрні."

Гэтым разам, на жаль, набажэнстваў не было ні ў праваслаўнай, ні ў каталіцкай цэрквах. На вялікі жаль, беларускае грамадзтва Вільні так і ня мае сваіх душпастыраў, якія маглі б рупіцца духоўнымі патрэбамі беларускага насельніцтва.

Урачыстае сьвяткаваньне пачалося з ускладаньня вянка і кветак да магілы братоў Луцкевічаў на Віленскіх могілках Росы. Менавіта Луцкевічы належалі да тых, хто тады спрычыніўся да абвешчаньня БНР. Выступілі Кірыл Атаманчык, Хведар Нюнька, Станіслаў Шушкевіч. Усе яны адзначылі важнасьць гэтага сьвята і выказалі спадзяваньне на адраджэньне Беларусі.

Сьвяту 25 Сакавіка папярэднічала чарговая гадавіна з дня сьмерці Кастуся Каліноўскага, калі віленскае беларускае грамадзтва і госьці Вільні ўшанавалі памяць аднаго з найслаўнейшых сыноў беларускай зямлі. Менавіта паўстаньне Кастуся Каліноўскага дало штуршок да адраджэньня беларускага народа і можна сказаць, што гэта таксама быў імпульс, які пасьля перарос у абвяшчэньне БНР. 23 сакавіка ў Віленскай грэка-каталіцкай царкве Св. Тройцы прайшла паніхіда ў памяць Кастуся Каліноўскага, якую адслужыў грэка-каталіцкі сьвятар з Гародні а. Андрэй Крот. Пасьля паніхіды распачалося ўрачыстае шэсьце ад месца пакараньня Кастуся Каліноўскага сьмерцю на Лукішскім пляцы да яго ўмоўнай магілы на гары Гедыміна.

Не ў аднаго з удзельнікаў хвалявалася сэрца ад вялікай колькасьці бел-чырвона-белых сьцягоў на галоўным праспэкце літоўскай сталіцы. І гэтым беларусы ў чарговы раз засьведчылі аб сваім існаваньні і аб тым, што і ў гэтым горадзе яны маюць частку сваёй гісторыі. Трэба зазначыць, што ў шэсьці прынялі ўдзел два каталіцкія сьвятары: грэка-каталіцкі а. Андрэй Крот і рыма-каталіцкі а. Даніла Сваяк, а таксама дэлегацыя Руху Салідарнасьці "Разам".

Арганізатарамі шэсьця сталі "Беларуская нацыянальная памяць" (Варшава) і Таварыства беларускай культуры ў Літве.

Урачыстае сьвяткаваньне ўгодкаў БНР адбылося ў Віленскай ратушы. Там сабралася значная колькасьць удзельнікаў, сярод іх вядомыя літоўскія палітыкі і грамадскія дзеячы: мэр Вільні Артурас Зуокас, член літоўскага Сойма Гедымінас Кіркілас, член літоўскага Сойма Эмануэліс Зінгерыс, Саўлюс Печэлюнас, Стасіс Каўшыніс і інш. З беларускага боку былі Станіслаў Шушкевіч, Хведар Нюнька, Аляксандр Каўбаска.

Прамоўцы галоўным чынам засяроджвалі ўвагу на самой даце 25 сакавіка і важнасьці падзеі абвяшчэньня незалежнасьці БНР як для беларускага, так і літоўскага народаў. Нямала гаварылася і пра тое, што літоўцы павінны дапамагчы беларусам у іх шляху да волі. Эмануэліс Зінгерыс засяродзіў увагу на тым, што неабходна прадаўжаць санкцыі супраць беларускага рэжыму, перадусім візавыя, бо так не павінна быць, калі лукашэнкаўскія чыноўнікі на роўных сустракаюцца з еўразьвязаўскімі. Тыя, што прымаюць удзел у парушэньні правоў чалавекаі яго свабод у Беларусі, павінны ігнаравацца палітыкамі з дэмакратычных краін.

Старшыня ТБК Хведар Нюнька ад імя Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвіллы зачытаў сьвяточнае віншаваньне.

Сьвяточнае мерапрыемства завяршылася канцэртам фальклёрнага гурта „Akana NHS". У іх сьпевах адкрыўся сьвет старажытнай гісторыі беларусаў зь іх вераваньнямі і традыцыямі. Магчыма, усе нашыя сёньняшнія беды ад таго, што зракліся традацый і мовы сваіх продкаў.

Беларускі тыдзень у Вільні завяршыўся 30 сакавіка. У праграме тыдня таксама адбыўся дзень адчыненых дзьвярэй у Эўрапейскім гуманітарным унівэрсытэце і сустрэча з адміністрацыяй. У віленскім клюбе LOFTAS прайшоў фэст «Feel Free!» з удзелам беларускіх музычных гуртоў «Крамбамбуля» і «Нейра Дзюбэль», а таксама літоўскай музычнай групы «Biplan».

Гэтым разам можна сказаць, што сьвяткаваньне Дня Волі ў Вільні было ня толькі традыцыйным, але перарасло ў больш шырокае і маштабнае мерапрыемства, якое адзначалася цягам тыдня. Гэта ўзьняло настрой віленскіх беларусаў і ўмацавала веру ў хуткае адраджэньне Беларусі.

# Масква

У Маскве сьвяткаваньне пачалося ў нядзелю, 24 сакавіка, калі ў Расейскай дзяржаўнай бібліятэцы адбылася сустрэча зь беларускім паэтам і бардам Эдуардам Акуліным. Канцэрт пачаўся сьпяваньнем гімну БНР, а таксама з зачытаньня віншавальнага звароту Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвіллы. Мерапрыемства было арганізаванае маскоўскім Таварыствам беларускай культуры імя Францішка Скарыны.

У панядзелак, 25 сакавіка, у клюбе Zavtra ў рамках курсаў беларускай мовы «Мова ці кава» прайшоў прагляд мультфільма «Неверагодны містэр Фокс», дубляванага на беларускую мову. Перад мультфільмам была праведзеная віктарына з пытаньнямі па тэме БНР, а таксама адбыўся тэлемост зь Менскам з грамадскім актывістам Андрэем Кімам, які быў адным з ініцыятараў перакладу фільма на беларускую мову.

# Санкт-Пецярбург

22 сакавіка ў клюбе "Манхэтэн" адбыўся сумесны канцэрт караля беларускай рок-музыкі Аляксандра Памідорава і піцерскага рок-барда Аляксандра Чарнецкага. Атмасфэра ў клюбе panавала вельмі цёплая. Ня ўсе прысутныя расейцы разумелі па-беларуску, але ахвотна падцягвалі некаторыя песьні. На наступны дзень сьвяткаваньне працягнулася ў бары "Свабода". Актывістка клюбу "Беларусы Пецярбурга" Сьвятлана Гаўрыліна частавала ўсіх беларускімі дранікамі ўласнага прыгатаваньня. Пакаштаваць беларускую кухню прыйшло больш за 40 чалавек: беларускія студэнты з піцерскіх ВНУ і тыя, хто зьехаў зь Беларусі па палітычных ці эканамічных абставінах. Павіншаваць беларусаў са сьвятам прыйшлі і ўдзельнікі руху "Інгрыя". Нагадаем, як і БНР, незалежная Паўночная Рэспубліка Інгрыя паўстала на Карэльскім перасмыку ў выніку развалу Расейскай Імперыі. Да сьвята таксама далучыліся і пецярбуржцы, якія завіталі ў бар адразу пасьля мітынгу за вызваленьне палітвязьняў, што апынуліся за кратамі пасьля масавых пратэстаў супраць несумленных выбараў. З прывітальнымі словамі выступіў каардынатар па зьнешніх сувязях клюбу, палітоляг Дзяніс Васільеў. Ён падкрэсьліў, што клюб "Беларусы Пецярбурга" мусіць стаць ядром, якое аб'ядноўвае беларусаў для захаваньня нацыянальнай культуры, традыцый і самаідэнтыфікацыі, а таксама для падтрыманьня сувязяў з Радзімай.

Маргарыта Пярова расказала пра Раду БНР і братоў Луцкевічаў, а таксама пра навукоўца, аўтара шматлікіх прац па гісторыі Беларусі, стваральніка і нязьменнага старшыню Беларускага грамадзка-культурнага таварыства ў Санкт-Пецярбургу Валянціна Грыцкевіча, які памёр на пачатку сакавіка гэтага года. Удзельнікі сьвята паглядзелі фільм Юрыя Хашчавацкага "Дзень Волі" і разам з Аляксандрам Памідоравам прасьпявалі беларускія песьні. Скончылася сустрэча агульным фатаграфаваньнем на пасярэбраныя пласьціны фотакамеры 40-х гадоў. Такім чынам піцерскія беларусы нібыта зафіксавалі сваю еднасьць з гісторыяй Радзімы. На такія пласьціны ў XIX стагоддзі рабілі здымкі сасланых у Сібір паўстанцаў 1863 года.

## Чарнігаў

24 сакавіка беларуская грамада Чарнігава каля Екацярынінскай царквы з удзелам актывістаў украінскіх грамадскіх арганізацый адзначыла Дзень Волі.

Пад час сьвяткаваньня гучалі вершы беларускіх паэтаў, гучала слова Божае на беларускай мове. Беларусы заклікалі ўкраінцаў да салідарнасьці зь імі. Беларусам, якія ў неспрыяльных умовах вядуць зараз барацьбу з прамаскоўскім рэжымам, вельмі важная падтрымка брацкага ўкраінскага народа.

## Кіеў

25 сакавіка Старшыня Руху Салідарнасьці "Разам" Вячаслаў Сіўчык сумесна з прадстаўнікамі ўкраінскіх партый і рухаў, правёў акцыю салідарнасьці зь беларускім народам з нагоды 95-й гадавіны Дня Волі і пікетаваньне Пасольства Рэспублікі Беларусь у Кіеве з патрабаваньнем неадкладнага вызваленьня трох грамадзянаў Украіны, якія былі затрыманы пад час сьвяткаваньня Дня Волі ў Менску.

## Севастопаль

Севастопальскае таварыства беларусаў імя Максіма Багдановіча «Пагоня» да 95-х угодкаў абвяшчэньня незалежнасьці БНР арганізавала правядзеньне Круглага стала, прысьвечанага тэме барацьбы за дзяржаўную незалежнасьць Беларусі. Напярэдадні сябры Таварыства наведалі ў Ялце магілку Максіма Багдановіча і замацавалі там герб Пагоня.

## Беларуская эміграцыя стварае “паралельную дзяржаву”

«Структуры, якія ствараюць беларусы за межамі сваёй краіны, становяцца альтэрнатываю афіцыйным.

Сьвяткаваньне галоўнага нацыянальнага сьвята беларусаў – Дня Волі, гадавіны абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі 25 сакавіка 1918 году, адбылося ня толькі ў Менску, але і ў Варшаве, Вільні, Кіеве, Празе, Лёндане і іншых гарадох Эўропы, дзе цяпер жывуць прадстаўнікі «лукашэнкаўскай» хвалі беларускай эміграцыі. Многія за мяжою ўратаваліся ад турмы і ціску беларускага КДБ.

Нягледзячы на праблемы эміграцыі, яны не пакінулі сваёй палітычнай і грамадзкай дзейнасьці, стварылі ў замежжы розныя арганізацыі, якія спрабуюць уплываць на сытуацыю на радзіме. Фактычна, створаныя імі структуры становяцца альтэрнатываю дзяржаўным» - перадае Украінская служба Радыё Свабода

*Паводле сайту: charter97.org*

## Львоў



25 сакавіка ў Львове прайшоў шэраг мерапрыемстваў, прымеркаваных да Дня Волі. Арганізатараў сьвяткаваньня – сяброў Руху Салідарнасьці «Разам», з украінскага боку падтрымалі прадстаўнікі ВО “Свобода” і УНА-УНСО.

Да сьвяточных мерапрыемстваў далучыліся паэт, грамадзкі дзеяч Славамір Адамовіч, рок-музыка і грамадзкі дзеяч Ігар Сімбіроў, намеснік старшыні Беларускага цэнтру ва Украіне “Захад” Віталь Макаранка, брат палітзьняволенага Мікалая Статкевіча Аляксандр Статкевіч.

Урачыстае сьвяткаваньне распачалося з узьняцьця бел-чырвона-белых сьцягоў ля Львоўскай гарадзкой рады і шэсьця ад гістарычнага цэнтру Львова да Лычакаўскіх могілак, дзе пахаваны паўстанцы 1863-1964 года, для якіх Львоў стаў калісьці прытулкам ад перасьледу ўладаў царскай Расеі.

Затым дэлегацыя крочыла да Львоўскай гарадзкой рады, дзе адбылася сустрэча з прадстаўнікамі львоўскай мэрыі і сябрамі ўкраінскіх апазыцыйных партый.

Напрыканцы сустрэчы Аляксандр Макаеў падзякаваў украінцам за цёплы прыём, падкрэсьліўшы, што Дзень Волі ў Львове адбываецца ўпершыню. Ён зьвярнуў увагу яшчэ на аднаго ўдзельніка акцыі зь Беларусі - рок-музыку і актывіста Ігара Сімбірова, які ўпершыню за многія гады не патрапіў за краты, адзначаючы Дзень Волі, бо адзначае гэтае сьвята ў братняй Украіне. І наадварот, на жаль, рэпрэсіўныя органы Беларусі за сьвяткаваньне Дня Волі ў Менску затрымалі трох грамадзянаў Украіны з іх нацыянальнай сімволікай - сіне-жоўтымі сьцягамі.

Завершылася сьвяткаваньне Дня Волі ўскладаньнем вянка і прамовамі ля помніка Сьцяпану Бандэры.

Дню Волі прысьвячаецца

## Белая краіна

*Сыходзіць зімняя слата,*
*Я пад шэрым дахам неба*
*Гляджу, як мітусіць вада.*
*І я сумую па краіне белай,*
*Дзе нарадзіўся я,*
*Але ня жыў ніколі досыць*
*І без якой, як сірата.*

*Мне кола часу*
*Так часта варушыць дарма,*
*Цудоўны ўспамін краіны белай,*
*Дзе нарадзіўся я,*
*Але ня жыў ніколі досыць*
*І без якой, як сірата.*

*Так лёгка дыхаць*
*Роднае паветра*
*Ды прачынацца пасьля сну*
*(Пад жаваранка звонкую жалейку*
*У калысцы казачнай краіны белай)*
*Дзе нарадзіўся я калісьці,*
*Вучыўся, жыў, а потым з'ехаў,*
*Дадому не вярнуўся.*

*Але, не разьлюбіў акрас той белы,*
*Бо немагчыма!*

*Арцём Гусак, Нью-Ёрк*

## Сьцяг над краінай

*Сяргею Каваленку*

*Проста на парозе*
*Стрэў Новы год*
*Бел-Чырвона-Белы*
*Сьцяг перамог!*
*Перад самым носам*
*У мянтоў-разяў*
*На вярхушцы ёлкі*
*Хлопец яго ўзьняў.*
*Акалелі рукі,*
*Жах ад вышыні,*
*Толькі гонар й годнасьць*
*Усё перамаглі.*
*Ад любові вялікай*
*Да сваёй Радзімы*
*Зьдзейсьніў сын Мірона*
*Гераічны ўчынак.*
*Распрастаны ветрам*
*Залунаў імклівa*
*Бел-Чырвона-Белы*
*Над усёй краінай!*

*Дзмітры Якауцаў, Гомель*

## “Параноя” выйшла ў ЗША

Раман беларускага журналіста і пісьменьніка Віктара Марціновіча «Параноя» перакладзены на ангельскую мову і апублікаваны ў амэрыканскім выдавецтве North Western University Press.

31 сакавіка англамоўная вэрсія кнігі зьявілася ў інтэрнэт-краме Amazon.

Прапанову ад выдавецтва Марціновіч атрымаў два гады таму. Як ён паведаміў, раман «Параноя» выйграў перакладчыцкі конкурс амэрыканскага ПЭН-цэнтра, у якім удзельнічала 115 твораў з розных краін. Пераклад выкананы прафэсарам славістыкі Даен Немец-Ігнашавай.

Фрагмэнт англамоўнай «Параноі» раней быў апублікаваны ў літаратурным часопісе Epiphany. Паводле Марціновіча, «пераклад быў фантастычным». Акрамя таго, агляд кнігі быў апублікаваны ў прэстыжным спэцыялізаваным выданьні Publishers weekly.

Раман «Параноя» выйшаў у 2009 годзе ў расейскім выдавецтве «АСТ». Месца дзеяньня нагадвае Беларусь. Апавядаецца пра адносіны пісьменьніка з палюбоўніцай кіраўніка краіны. Першы час кніга свабодна прадавалася ў Беларусі, але прыкладна празь месяц пасьля выхаду купіць раман у Менску стала немагчыма. Твор атрымаў вялікі распаўсюд у электронным варыянце.

## Сьледчы Аліхвэр зьбег у Амэрыку

Скандальна вядомы ў Беларусі сьледчы, які вёў першую справу Мікалая Аўтуховіча, перабраўся на жыхарства ў ЗША.

Мікалай Аліхвэр – старшы сьледчы Упраўленьня па Гарадзенскай вобласьці Камітэта дзяржаўнага кантролю ў 2003-2005 гадох - давёў справу Мікалая Аўтуховіча і Юрыя Лявонава да суда. Гэтыя прадпрымальнікі былі асуджаныя быццам бы за эканамічныя злачынствы па сфабрыкаванай справе, а фактычна гэта была расправа з людзьмі за іх незалежныя погляды.

І вось у інтэрнэце на сайце «Аднакласьнікі» зьявіліся фотаздымкі Аліхвэра з жонкаю з надпісам «Я шчасьлівы», фота паказваюць шчасьлівае жыцьцё сямейкі ў Амэрыцы. А Мікалай Аўтуховіч і да гэтага часу пакутуе за кратамі.





# Вялікдзень: Хрыстос уваскрос!

*У сакавіку сёлета прыйшлося Сьвята Уваскрэсеньня Хрыстовага - Вялікдзень для беларускіх каталікоў і пратэстантаў. З гэтай нагоды зьвярнуўся да іх з традыцыйным Вялікодным пасланьнем Айцец Надсан, апостальскі візытатар для беларусаў грэка-католікаў замежжа:*

## “Скажам «браты» і тым, што ненавідзяць нас”

Першыя крокі папы Францішка выклікалі шмат камэнтароў у сусьветнай прэсе. Не абышлося і бяз крытыкі, асабліва з боку некаторых царкоўных дастойнікаў, якім ня вельмі быў даспадобы ягоны сьціплы спосаб жыцьця, а таксама ягоная любоў да бедных, якая не скончаецца толькі словамі, і ў якой некаторыя хацелі б бачыць паказуху.

А між іншым папа не зрабіў і ня робіць нічога, чаго не рабіў Той, чым намесьнікам на зямлі ён зьяўляецца, і які сказаў: «Лісы маюць норы, птушкі нябесныя — гнёзды свае, а Сын Чалавечы ня мае, дзе б галаву прытуліць» (Лк 9:58). Ягоная асоба і навучаньне не супадалі з уяўленьнем чаканага Збаўцы сярод тых, якія ўважалі сябе духоўнымі праваднікамі і настаўнікамі свайго народу. Сапраўды, “Прыйшоў да сваіх, і свае Яго не пазналі” (Ян 1:11); і ня толькі не пазналі, але адкінулі і ўзьненавідзелі, і сталі прычынаю Ягонай крыжовай сьмерці. І ў гэтым вялікая трагедыя абранага народу.

Але магіла і сьмерць не маглі ўтрымаць Таго, хто сказаў пра сябе «Я — уваскрасеньне і жыцьцё» (Ян 11:25). Госпад і Бог наш Ісус Хрыстос устаў зь мёртвых на трэці дзень, абнавіўшы сваім устаньнем увесь сусьвет і даючы нам дарогу да вечнага і непрамінальнага жыцьця з Богам.

Вялікдзень — доказ усёабдымнай Божай любові да людзкога роду, любові не сумяшчальнай зь ніякімі праявамі злосьці ці нянавісьці да каго-колечы. Узгадаем малітву Хрыста за тых, што яго ўкрыжавалі: "Ойча, прабач ім, бо яны ня ведаюць, што чыняць" (Лк 23:34). Гэтыя словы



даюць нам шмат да роздуму.

Пра гэта гаворыцца і ў песьні, якую сьпяваем падчас Велікоднай службы: «Уваскрасеньня дзень! Прасьветлімся ўрачыстасьцю і адзін аднаго абдымем; скажам «браты» і тым, што ненавідзяць нас, прабачыўшы ўсё дзеля ўваскрасеньня; і ўсклікнем вось так: «Хрыстос уваскрос зь мёртвых, сьмерцю сьмерць зваяваў, і тым, што ў магілах, жыцьцё дараваў».

*А. Аляксандар Надсан, Вялікдзень 2013*

# Каляндар памятных датаў на красавік 2013 году

**2 красавіка** - 80 гадоў таму, у 1933 годзе, нарадзіўся Віктар Шымук, пісьменьнік

**2 красавіка** – 45 гадоў таму, у 1968 годзе, у Бразыліі ў аўтакатастрофе загінулі Якуб Харэўскі і яго ад'ютант Кастусь Гук – удзельнікі беларускага нацыянальнага партызанскага руху 1942-1948 г.г.

**4 красавіка** – 120 гадоў таму, у 1893 годзе, нарадзіўся Мікола Шчаглоў, кампазытар, музычны і тэатральны дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША

**6 красавіка** – 120 гадоў таму, у 1893 годзе, нарадзіўся Язэп Гаўрылік, дзеяч, заходнебеларускага нацыянальнага руху, настаўнік

**6 красавіка** – 65 гадоў таму, у 1948 годзе, памёр Мікола Шыла, грамадзкі дзеяч, нашанівец, журналіст, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне

**7 красавіка** - Сусьветны дзень здароўя

**7 красавіка** – 40 гадоў таму, у 1973 годзе, у Саратаве памёр Язэп Дыла, грамадзкі дзеяч, пісьменьнік

**7 красавіка** – 30 гадоў таму, у 1983 годзе, памерла Ларыса Геніюш, паэтка, пісьменьніца, грамадзкая дзеячка

**10 красавіка** – Міжнародны дзень вызваленьня вязьняў фашысцкіх канцлягераў

**11 красавіка** – 90 гадоў таму, у 1923 годзе, у Вільні пачаўся зьезд педагогаў беларускіх сярэдніх школ, арганізаваны ТБШ

**14 красавіка** – 10 гадоў таму, у 2003 годзе, памерла Зора Кіпель, бібліёграф, літаратуразнавец, публіцыстка, дзеячка эміграцыі ў ЗША

**18 красавіка** – Міжнародны дзень аховы помнікаў і гістарычных мясьцін

**18 красавіка** – 110 гадоў таму, у 1903 годзе, нарадзіўся Платон Галавач, пісьменьнік, грамадзкі дзеяч

**21 красавіка** – 180 гадоў таму, у 1833 годзе, нарадзіўся Віктар Каліноўскі, гісторык, археограф, адзін з ідэолягаў паўстаньня 1863 - 64 г.г.

**23 красавіка** – 90 гадоў таму, у 1923 годзе, памёр Ігнат Канчэўскі (Ігнат Абдзіраловіч), паэт, філёзаф, публіцыст

**23 красавіка** – 90 гадоў таму, у 1923 годзе, нарадзіўся Мікалай Рулінскі, афіцэр Беларускай Краёвай Абароны, грамадзкі дзеяч у Вільні

**24 красавіка** – Міжнародны дзень салідарнасьці моладзі

**24 красавіка** – 10 гадоў таму, у 2003 годзе, памёр Янка Жамойцін, грамадзкі дзеяч, публіцыст, дзеяч эміграцыі ў Польшчы

**26 красавіка** - Дзень памяці ахвяраў Чарнобыльскай катастрофы (1986)

**26 красавіка** – 130 гадоў таму, у 1883 годзе, у Варшаве памёр Напалеон Орда, піяніст, кампазытар, мастак, удзельнік паўстаньня 1830-31 г.г.

**27 красавіка** – 400 гадоў таму, у 1613 годзе, у Жыровічах заснаваны уніяцкі кляштар

**28 красавіка** – 95 гадоў таму, у 1918 годзе, Народны Сакратарыят Беларусі зацьвердзіў беларускую мову ў якасьці дзяржаўнай у БНР

**30 красавіка** – 15 гадоў таму, у 1998 годзе, памёр Вітаўт Тумаш, медык, грамадзкі дзеяч, скарынaзнавец, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША

# Менск - другі па небясьпечнасьці горад Эўропы?



Па дадзеных Упраўленьня ААН па наркотыках і злачыннасьці, найбольш небясьпечныя для пражываньня гарады сканцэнтраваныя ў Цэнтральнай і Паўднёвай Амэрыцы.

Абсалютным лідэрам сярод «сталіц злачыннасьці» зьяўляецца Каракас (Венэсуэла), дзе ўзровень наўмысных забойстваў складае 122 чалавекі на 100 тыс. насельніцтва. На другім месцы ў сумным рэйтынгу - Гватэмала Сіці (118,3).

У параўнаньні з названымі рэгіёнамі жыцьцё на эўраазіяцкім кантыненце на парадак бясьпечней, аднак і тут не без граху. Так, у галоўным горадзе Манголіі Улан-Батары ў год здзяйсняецца 10,2 забойства на 100 тыс. насельніцтва.

У Эўропе ж самым крымінальным горадам апынуўся Талін, у якім узровень наўмысных забойстваў складае 7,3.

На другім жа месцы сярод еўрапейскіх гарадоў - Менск. Па дадзеных ААН, тут зьдзяйсьняецца 5,7 наўмысных забойстваў на 100 тыс. насельніцтва. У параўнаньні з Лацінскай і Цэнтральнай Амэрыкай гэта, безумоўна, вельмі сціплы паказчык, аднак ён больш, чым у Нью-Ёрку (5,6), суседніх з Беларусьсю сталіцах Рызе і Вільні (5,4), Маскве (4,6) і Кіеве (4,2).

Найбольш спакойнымі і бясьпечнымі гарадамі сьвету, па дадзеных UNODC, зьяўляюца Рэйк'явік, Любляна і Лісабон у Эўропе і Токіо ў Азіі - тут ўзровень забойстваў на 100 тыс. насельніцтва ніжэй за 1.

Рэйтынг Упраўленьня ААН па наркотыках і злачыннасьці разьлічваўся на аснове дадзеных міністэрстваў унутраных спраў і аховы здароўя краін, інфармацыі адкрытых урадавых крыніц і зьвестак, сабраных іншымі міжнароднымі і рэгіянальнымі органамі, у тым ліку такімі, як Інтэрпол, Эўрастат, Арганізацыя амэрыканскіх дзяржаў і UNICEF.



# З гісторыі права на валоданьне зброяй у ЗША



*Перш чым вайсковы гвалт зможа кіраваць краінай, яе насельнікі павінныя быць раззброеныя; менавіта так сталася амаль ва ўсіх краінах Эўропы. Бог не жадае, каб у Амэрыцы несправядлівасьць уладарыла з дапамогай мяча; таму ўсе людзі тут узброеныя і маюць магчымасьць супрацьстаяць гвалту любой дыктатуры, якая пажадала б калі-небудзь паняволіць Злучаныя Штаты.*

*Ной Вэбстэр*
*амэрыканскі палітык, публіцыст і мовазнаўца XVIII-XIX стагодзьдзяў,*
*аўтар “Амэрыканскага слоўніка ангельскай мовы”*

Нягледзячы на доўгую гісторыю, пытаньне пра права грамадзянаў на валоданьне зброяй у Злучаных Штатах вось ужо больш за 100 год зьяўляецца адной з галоўных тэмаў грамадзкай дыскусіі. Раз-пораз падобныя спрэчкі ўзьнікаюць і ў іншых краінах, у тым ліку ў Беларусі. Таму досьвед Злучаных Штатаў, дзе, з аднаго боку, права на валоданьне зброяй зьяўляецца канстытуцыйным, а зь іншага боку, разьвіваецца вось ужо трэцяе стагоддзе, можа быць карысным для нас.

Другая Папраўка да Канстытуцыі Злучаных Штатаў, ухваленая Кангрэсам і першымі 13-цю штатамі адначасова з самой Канстытуцыяй у рамках Біля пра правы, гучыць наступным чынам: “Паколькі добра кіруемая міліцыя зьяўляецца неабходнай для бясьпекі свабоднай Краіны, то права людзей валодаць і захоўваць зброю не павіннае парушацца”.

Натуральна, што айцы-заснавальнікі Злучаных Штатаў ня мелі на ўвазе нашую беларускую міліцыю і тым больш ОМОН, калі ўхвалялі такую рэдакцыю адной з ключавых нормаў Канстытуцыі сваёй краіны. Тое, што мы называем міліцыяй, ва ўсім сьвеце называецца паліцыяй. А міліцыя – гэта ўзброеныя атрады грамадзянаў, якія самі вырашылі аказаць супраціў ворагам – унутраным ці зьнешнім – сваёй краіны. Менавіта такой міліцыяй былі славутыя беларускія партызаны часоў Другой Сусьветнай вайны ці паспалітае рушаньне часоў Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай Абоіх Народаў. І менавіта такая міліцыя (ці, калі больш падабаецца, паспалітае рушаньне) у часы Амэрыканскай рэвалюцыі і вайны за незалежнасьць у значнай ступені сталася вырашальнай сілай.

Аднак якая можа быць міліцыя ў нашыя дні, калі рэгулярнае войска валодае настолькі тэхналагічнай і дасканалай зброяй, што ніводны парамілітарны атрад ня зможа яму супрацьстаяць у адкрытым баі? Тыя часы, калі на полі бою шмат што вырашалася колькасьцю, а не тэхналёгіямі, даўно мінулі. Менавіта такі аргумант ужываюць праціўнікі права на зброю ў ЗША: яны сьцьвярджаюць, што Другая Папраўка – анахранізм, бо міліцыі ў ЗША даўно не існуе, а права на зброю было абумоўлена менавіта неабходнасьцю фармаваць міліцыю. Таму, маўляў, цяпер няма неабходнасьці зброіць грамадзянаў.

У рэчышчы гэткай тэорыі пайшло заканадаўства шмат якіх так званых “ліберальных” штатаў, дзе права грамадзянаў на зброю або ўвогуле адмаўляецца, або значна абмяжоўваецца. Так, у штаце Нью-Ёрк чалавек, які пажадае атрымаць дазвол на зброю, мусіць давесьці, што яна яму сапраўды неабходная (напрыклад, ён адчувае пагрозу), прайсьці адпаведныя курсы, заплаціць немалую пошліну і чакаць да паўгоду і болей. Набыць ён можа толькі адну адзінку таго класу, пра які ён прасіў, і толькі ва ўказанай краме на тэрыторыі штата. Прывоз і нават проста транспартаваньне зброі праз тэрыторыю штата забароненае і караецца вялікім тэрмінам зьняволеньня. Такое самае заканадаўства ў свой час ухвалілі ў штаце Ілінойс. А ўлады горада Вашынгтон (акруга Калюмбія) пайшлі яшчэ далей: у гэтым горадзе забаронена было валодаць і захоўваць зброю ўсім, апроч тых, хто атрымаў яе ў спадчыну да 1975 году, а таксама дзеючых і адстаўных афіцэраў паліцыі і сьпецслужбаў. Але нават тыя, каму было дазволена мець зброю, павінныя былі трымаць яе разладаванай, а лепш увогуле разабранай.

На супрацьлеглым баку знаходзяцца т. зв. “кансэрватыўныя” штаты, сканцэнтраваныя пераважна на Сярэднім Захадзе. Напрыклад, заканадаўства штата Каларада дазваляе любому чалавеку – апроч тых, каму права валоданьня зброяй абмежаванае – набыць любую адзінку любой зброі ў любой краме, або прывезьці яе з тэрыторыі іншага штату. Тэарэтычна гэта можа быць нават гранатамёт ці гармата. А аўтаматы Калашнікава свабодна выстаўляюцца ў крамах (у тым ліку ў супэрмаркетах побач з прадуктамі харчаваньня і побытавай хіміяй) і на выставах-продажах зброі, якія праводзяцца ў гэтым штаце рэгулярна. Вы можаце свабодна гуляць па вуліцы з зараджаным рэвальверам на поясе, як за часамі каўбояў, і вам ніхто нічога ня можа сказаць. Уладам штату забаронена нават рэгістраваць ці весьці нейкі ўліковы каталёг наяўнай на руках зброі. Адзінае невялікае абмежаваньне – гэта права на схаванае нашэньне зброі. Каб атрымаць такое права, трэба зьвярнуцца ў офіс шэрыфа па вашым месцы жыхарства і, заплаціўшы невялікую пошліну, атрымаць пісьмовы дазвол. Таксама нельга вазіць у салоне машыны наладаваную стрэльбу ці аўтамат – але пісталет ці рэвальвер абсалютна легальна можа ляжаць у вас у бардачку ці нават на каленях. Трэніравацца ў стральбе ці паляваньні можна ўжо на адлегласьці 100 мэтраў ад публічнай дарогі ці жытла. Ці дзіва, што каларадцы актыўна карыстаюцца сваімі правамі?

Што цікава, узровень гвалту і злачыннасьці ў штатах, дзе абарот зброі нічым не абмежаваны ці абмежаваны нязначна, ніжэйшы, чым у штатах са значнымі абмежаваньнямі. Паколькі любы злачынца ведае, што ў прахожага “ў цёмным завулку” лёгка можа аказацца пры сабе зброя, то ён дзесяць разоў думае, перш чым спрабаваць некага абрабаваць. На шмат якіх дамах вісяць шыльды наступнага зьместу: “Жыхары гэтага дому ўзброеныя і гатовыя абараняць сваё жыцьцё і маёмасьць”. Такія надпісы таксама адстрашваюць патэнцыяльных рабаўнікоў.

Зь іншага боку, раз на некалькі год здараюцца трагедыі кшталту той, што адбылася ў горадзе Аўрора, штат Каларада, калі вар'ят расстраляў наведвальнікаў мясцовага кінатэатру. А пяць год таму іншы вар'ят расстраляў вучняў у мясцовай школе. Але абмежаваньне на зброю не дапамагло таксама пазьбегнуць страляніны ў ажыўленым турыстычным месцы ў самым цэнтры Нью-Ёрку каля Эмпайр Стэйт Білдынгу.

Усе гэтыя аргументы рэгулярна ўсплываюць, калі людзі з супрацьлеглымі поглядамі пачынаюць спрачацца наконт зброі.

Цікава, што паняцьце “міліцыя” і зьвязанае зь ёю права на зброю прыйшло ў ЗША яшчэ з сярэднявечнай Ангельшчыны. Па некаторых зьвестках, ужо ў VII стагоддзі ангельскія каралі патрабавалі (!) ад сваіх падданых мець у хаце зброю і ставіцца на пакліканьне свайго караля. Прычым датычыла гэта ня толькі шляхты, але і проста вольных людзей.

Кароль Генрых VIII, які правіў у Англіі ў пачатку XVI стагоддзя, забавязаў усіх бацькоў свайго каралеўства набыць сынам ва ўзросьце ад 7 да 14 год вялікі ангельскі лук і рэгулярна навучаць іх валоданьню гэтай складанай зброяй. Мужчыны ж ва ўзросьце ад 14 да 40 год павінныя былі па прызыве прыйсьці самі і прынесьці свае лукі. Дачка Генрыха VIII, вядомая каралева Эльжбета I, пастанавіла весьці ўлік “прызыўнога кантынгенту” па ўсёй краіне і захоўваць такія сьпісы. Яна ж першай ужыла слова “міліцыя”.

Пытаньне кантролю над міліцыяй сталася непасрэднай прычынай грамадзянскай вайны ў часы Ангельскай рэвалюцыі: як Парлямэнт, так і кароль Якуб I імкнуліся прызначыць сваіх афіцэраў для камандаваньня міліцыяй, што і прывяло да першых збройных сутычак у 1642 годзе. Наступныя 20 год у Ангельшчыне кроў лілася ракой.

Сын пакаранага сьмерцю Якуба I, наступны кароль Якуб II, які быў пакліканы караляваць пасьля заканчэньня крывавай завірухі, стаў перад дылемай: ягоныя падданыя спрэс былі ўзброеныя і прайшлі суворую школу доўгай грамадзянскай вайны, а Парлямэнт не жадаў падпарадкоўвацца ўказам караля. Таму адной з першых задачаў было раззбраеньне насельніцтва, якое, як высьветлілася, не жадала расставацца са зброяй. У выніку гэта прывяло да зьвяржэньня Якуба II і прыходу да ўлады Вільгельма Аранскага, які без дыскусіяў падпісаў прапанаваны яму дакумант і паабяцаў не рабіць спробаў раззбройваць людзей. Усе ягоныя наступнікі таксама прытрымліваюцца гэтага забавязальніцтва.

У той час у амэрыканскіх калёніях улада Вялікабрытаніі, занятай пераважна ўнутранымі канфліктамі і крывавай вайной, была збольшага намінальнай. А суворае атачэньне – у тым ліку сутычкі зь індэйцамі ці суседзямі-французамі і гішпанцамі – прымушала каланістаў трымаць порах сухім, а стрэльбы паблізу. Таму для амэрыканцаў права на зброю было неад'емным і натуральным. А любыя спробы каланіяльнай адміністрацыі ўводзіць абмежаваньне ўспрымаліся ў штыхі – у літаральным сэнсе гэтага слова.

Таму для айцоў-заснавальнікаў Злучаных

Штатаў пытаньне, ці маюць права грамадзяне на зброю, увогуле не стаяла: безумоўна маюць. Дыскусіі пры напісаньні Канстытуцыі ішлі наконт іншага: ці будзе Амэрыка фэдэратыўнай ці канфэдэратыўнай дзяржавай. Таму першыя дзьве амэрыканскія партыі так і называліся: фэдэралісты і антыфэдэралісты. Абедзьве зь іх прасоўвалі тую самую ідэю: права грамадзянаў на абарону ад гвалту з боку ўраду.

Фэдэралісты лічылі, што цэнтральны ўрад мусіць мець рэальную ўладу: фармаваць войска, біць манету, кіраваць міжштатным гандлем. Антыфэдэралісты лічылі, што любы цэнтральны ўрад рана ці позна пачне панявольваць сваіх грамадзянаў, таму яны імкнуліся ўзмацніць штаты. Але што да намераў уладаў штатаў у іх таксама не было сумневаў – гэта тыранія, якая рана ці позна стане адкрытай. Таму ўладу штатаў трэба таксама кантраляваць, як і ўладу цэнтральную. Лепш за ўсё з дапамогай сілы. Калі цэнтральны ўрад мае войска, то штаты павінныя мець супрацьвагу войску – міліцыю, якая складаецца з вольных грамадзянаў. Такім чынам і нарадзіўся тэкст Другой Папраўкі – каб грамадзяне мелі гарантаванае права супраціўляцца тыраніі ўраду (любога – фэдэральнага, штатнага ці ўраду захопнікаў) са зброяй у руках.

Дык што ж усё ж такі першаснае: права на фармаваньне міліцыі, і таму ў людзей мусіць быць зброя, ці ўсё ж права на зброю зьяўляецца неад'емным? Мабыць, для айцоўзаснавальнікаў такой дылемы не існавала: адно і другое было ўзаемазьвязанае і безумоўнае. Але ў нашыя часы дыскусія атрымала самае прыкладное значэньне: калі міліцыі ўжо няма, то ці патрэбная зброя?

Як ні дзіўна, але ў доўгай гісторыі амэрыканскай юрыспрудэнцыі ёсьць толькі тры справы, якія непасрэдна датычаць гэтага пытаньня. Першая справа слухалася ў часы "рузвельтаномікі" – у 1934-1939 гадах у час разгару першых у гісторыі Амэрыкі сацыялістычных экспэрымэнтаў прэзыдэнта Рузвельта. Называлася яна "Мілер супраць Злучаных Штатаў", і кропку ў ёй паставіў Вярхоўны Суд ЗША ў 1939 годзе.

Урад Рузвельта пастанавіў абмежаваць права грамадзянаў на валоданьне аўтаматамі, якія ў тыя часы толькі-толькі зьявіліся. Маўляў, гэта занадта небясьпечная зброя – краіна тады была шакаваная т. зв. "бойняй на дзень сьв. Валянціна", якая здарылася ў 1934 годзе. Таму ўрад стварыў адмысловы орган, у якім грамадзяне мусілі рэгістраваць наяўныя на руках аўтаматы – у абмен на ўплату вялізнага падатку ў $200 (на сёньняшнія грошы гэта ня меньш за $5000). Два чалавекі – Мілер ды Лэйтан – адмовіліся падпарадкавацца гэтаму патрабаваньню і абскардзілі дзеяньні ўраду ў суд. У выніку шматгадовай баталіі Вярхоўны Суд пастанавіў, што ўрад меў права ўсталёўваць падатак на валоданьне аўтаматамі… каб павялічыць даходы бюджэту. Абодва бакі – як прыхільнікі права на зброю, так і праціўнікі – запісалі гэткае рашэньне ў свой актыў як перамогу, бо суд не адказаў на прынцыповае пытаньне: ці маюць права грамадзяне на зброю. Прыхільнікі зброі палічылі, што маюць, а праціўнікі – што ўрад атрымаў права абмяжоўваць гэтае права праз падаткі ці іншым чынам.

Дзьве другія справы слухаліся ўжо ў нашыя дні.

Вышэй я ўзгадваў пра вельмі жорсткі закон, які дзейнічаў на тэрыторыі горада Вашынгтона. Фармальна Вашынгтон не належыць ніводнаму штату і падпарадкаваны непасрэдна фэдэральным уладам. Але Кангрэс дазволіў стварыць у горадзе адмысловы заканадаўчы орган, які і прыняў гэты закон.

Некалькі жыхароў горада – пераважна акадэмічных выкладчыкаў – вырашылі падважыць канстытуцыйнасьць закону і падалі ў суд. У выніку нарадзілася прэцэдэнтная справа, якой лёс наканаваў доўгае вывучэньне на юрыдычных факультэтах цягам дзесяцігодзьдзяў, а можа, і стагодзьдзяў – справа "Акруга Калюмбія супраць Гелера".

Спадар Гелер зьвярнуўся да гарадзкіх уладаў з патрабаваньнем выдаць яму дазвол на пісталет і атрымаў адмову, якую абскардзіў у суд. Справа цягнулася з 2002 году, і Вярхоўны Суд паставіў у ёй кропку ў 2008-м. Мінімальнай большасьцю гарадзкі закон быў прызнаны неканстытуцыйным і такім, што парушае Другую Папраўку да Канстытуцыі. Што важна – Вярхоўны Суд таксама рассудзіў спрэчку вакол таго, ці зброя людзям гарантаваная сама па сабе ці толькі дзеля ўдзелу ў міліцыі. У Вашынгтоне, як фэдэральнай тэрыторыі, міліцыі быць ня можа – фармаваць міліцыю маюць права толькі штаты, і таму гэтае пытаньне было прынцыповым для вырашэньня справы. Паводле Вярхоўнага Суду, права на зброю зьяўляецца неад'емным правам грамадзянаў, а не перадумовай для стварэньня міліцыі. То бок зброяй людзі могуць валодаць для любога яе законнага выкарыстаньня – самаабароны, спорту ці паляваньня – а ня толькі дзеля таго, каб мець з чым прыйсьці на прызыўны пункт.

Аднак гэтае рашэньне было палавінчатым. У амэрыканскім праве існуе тэорыя інкарпарацыі. Паводле гэтай тэорыі, Канстытуцыя ЗША напісаная для ўраду ЗША, а не штатаў. І толькі некаторыя яе палажэньні – паводле 14-й Папраўкі, прынятай пасьля заканчэньня Грамадзянскай вайны – абавязковыя таксама для штатаў. Сьпіс гэтых абавязковых палажэньняў вызначаецца судовымі пастановамі, і дагэтуль не было ніводнай пастановы, ці зьяўляецца Другая Папраўка, якая забараняе ўраду (якому: фэдэральнаму ці таксама ўраду штата?) абмяжоўваць права на зброю, абавязковай для штатаў ці толькі для федэральнага ўраду.

Спрэчка разгарэлася з новай сілай. У горадзе Вашынгтоне права на зброю было пацьверджанае, але штаты па-ранейшаму абмяжоўвалі яго на сваёй тэрыторыі, спасылаючыся на 10-ю Папраўку ("усё, што не належыць ўладзе федэральнай, належыць уладзе штатаў").

Канчатковую кропку ў спрэчцы паставіла справа "МакДональд супраць горада Чыкага", пастанову па якой Вярхоўны Суд прыняў у 2010 годзе. Паводле гэтага рашэньня, Другая Папраўка да Канстытуцыі ЗША зьяўляецца інкарпараванай для штатаў праз 14-ю Папраўку і, такім чынам, абавязковай для выканання ўладамі штатаў. Гэта азначае, што законы штатаў ня могуць накладаць абмежаваньняў на валоданьне зброяй звыш "разумных абмежаваньняў".

Відаць, новая вайна будзе ісьці вакол таго, што ёсьць "разумныя абмежаваньні". Федэральнае права гаворыць, што зброяй ня могуць валодаць пяць катэгорыяў жыхароў Амэрыкі:

- непаўнагадовыя;
- псіхічна хворыя;
- асуджаныя за злачынствы;
- звольненыя з войска бяз гонару (то бок за правіну, несумяшчальную са службай у войску ЗША);
- тыя, хто адмовіўся ад грамадзянства ЗША – бо яны публічна адмовіліся ад вернасьці краіне, калі адмаўляліся ад грамадзянства, і невядома, супраць каго яны цяпер могуць павярнуць зброю.

Ці зьяўляецца разумным, напрыклад, Нью-Ёркскі закон, які накладае абавязак прадэманстраваць вострую неабходнасьць мець зброю, напрыклад, з мэтаю забесьпячэньня асабістай бясьпекі? Пытаньне спрэчнае, і адказ на яго будзе залежным ад таго, ці лічыце вы, што зброя на руках павялічвае бясьпеку грамадства ці, наадварот, стварае дадатковыя рызыкі. Айцызаснавальнікі Амэрыкі прытрымліваліся прыкладна такіх поглядаў, як вынесены ў эпіграф погляд Ноя Вэбстэра. А што думаеце вы самі?

*Юрась Зянковіч*

# Сцэнкі з жыцьця: *Яцэк з-пад Кракова*

Жывучы ў Нью-Ёрку, гэтай сталіцы сьвету, паступова набываеш знаёмых і сяброў самых розных нацыянальнасьцяў. Вядома, найхутчэй мы тут сыходзімся з бліжэйшымі суседзямі – палякамі, украінцамі, расейцамі... Мела да нядаўняга часу і я тут блізкае сяброўства з адной польскай сям'ёю. Жылі яны раней ў адным невялікім гарадку на мяжы з Украінаю і выехалі на заробкі ў Амэрыку.

Праз тыдзень пошукаў працы Казімір уладкаваўся на будоўлю, як і бальшыня прыежджых напачатку. Быў задаволены і з радасьцю прыйшоў раніцаю на будаўніцтва нейкага аб'екту. Знайшоў начальніка, прадставіўся. Той, амэрыканец саліднага выгляду, падвёў навічка да стосу дошак і паказаў, што трэба расьпілаваць кожную на дзьве палавінкі. "Yes, yes, no problem", - энэргічна адказаў Казік, ужыўшы амаль увесь свой запас ведаў ангельскай мовы. Начальнік махнуў рукою і зьнік. Казімір пачаў аглядацца, чым пілаваць тыя дошкі, дзе тая піла, а прылады нідзе блізка не відаць. Агледзеўся, усе вакол занятыя працаю, падыйшоў да аднаго з выгляду паляка і запытаў, дзе можна ўзяць пілу. Той сапраўды аказаўся палякам і паказаў Казіку рукою на дзьверы ў суседняе памяшканьне: "Ідзі туды, папрасі там у хлопцаў".

Узрадаваны Казік пабег, адчыніў дзьверы ў вялікае памяшканьне, дзе працавалі чалавек дваццаць – пераважна лацінаамэрыканцы і чорныя. З пілою ў рукох не было нікога відаць. А як запытацца, як па ангельску называецца тая піла? Стаў туды-сюды аглядацца, можа і тут які паляк знойдзецца: "Ёсьць тут нехта паляк?" "Ну, я паляк", – пачуўся голас з дальняга вугла. Казімір з надзеяю кінуўся туды, а ніякага паляка і не відаць, аглядаецца разгублена вакол. Тут падымаецца высокі, як шафа, чорны хлопец і кажа: "Я – паляк, чаго пан хоча?" Ад нечаканасьці наш Казімір аж папярхнуўся: "О, пся крэў!" Велікан набычыўся: "Што пан кажа?" Уратавала Казіка прыродная кемлівасьць: "О, не, пане, я гэта пра сябе кажу, што я такі дурань, бо ня ведаю, як па-ангельску папрасіць у Вас пілу". Хлопец шырока ўсьміхнуўся, працягнуў Казіку сваю моцную руку: "Яцэк, з-пад Кракова". Хуценька пайшоў і прынёс тую злашчасную пілу.

*Ганна Сурмач*

## Сьв. пам. Георгія Валкавыцкага



7 красавіка ў Белавежы, на 91-м годзе жыцьця, памёр Георгі Валкавыцкі, заснавальнік і першы галоўны рэдактар беларускага тыднёвіка «Ніва» ў Беластоку.

Георгі Валкавыцкі нарадзіўся 13 сакавіка 1923 году ў Белавежы. Пісаць стаў яшчэ ў школьныя гады. У часе вайны змагаўся на фронце, патрапіў у нямецкую няволю. Пасьля вайны закончыў унівэрсытэцкія курсы і пайшоў вучыцца ў Акадэмію палітычных навук у Варшаве, але пасьля першага курсу паступіў у Літаратурны інстытут імя Горкага ў Маскве, які закончыў у 1954 годзе. Вярнуўся ў Беласток, дзе кароткі час працаваў журналістам у польскамоўнай «Газэце беластоцкай», а потым атрымаў заданьне скамплектаваць рэдакцыйны калектыў і наладзіць выданьне беларускамоўнага тыднёвіка ў Польшчы.

Георгі Валкавыцкі кіраваў рэдакцыйным калектывам «Нівы» 31 год, ад 4 сакавіка 1956 году, калі зьявіўся першы нумар тыднёвіка, да свайго выхаду на пэнсію ў 1987 годзе. Зрабіў вялізарны ўклад у разьвіцьцё беларускага літаратурнага руху ў Польшчы, гуртуючы вакол тыднёвіка літаратараў-пачаткоўцаў і мастакоў, якія ў 1958 годзе ўтварылі Беларускае літаратурна-мастацкае аб'яднаньне «Белавежа». Кожны месяц у «Ніве» пад яго ным кіраўніцтвам зьяўлялася літаратурная старонка «Белавежы».

Апублікаваў зборнікі вершаў «Разнагодзьдзе» (1989) і "Міжчасьсе" (2003), кнігі ўспамінаў «Віры. Нататкі рэдактара» (1991) і «У каменным крузе» (2000), кнігу сатырычных вершаў «Макатразмы» (1997).

## Сьв.пам. Рагнеды Аляховіч



Рагнеда Аляховіч, адзіная дачка Вінцэнта Жук-Грышкевіча і Ксеніі Лапіцкай памерла сёлета 13 студзеня. На жаль, пра гэта не было шырока вядома. Яна нарадзілася ў 1931 годзе ў Вільні. Бацьку яшчэ пры першых саветах рэпрэсавалі і адправілі ў лягер. У 1942 ён уступіў у армію генэрала Андэрса, а пасьля вайны застаўся на Захадзе. Маці Рагнеды камуністы арыштавалі ў 1944-м. Значна пазьней стала вядома, што яна памерла ў вілейскай турме. Рагнеду забралі да сябе сваякі. Яна скончыла савецкую школу. Паступіла на філфак БДУ. Але «за сокрытие фактора біографіі» была выключаная. Скончыць ВНУ ўсё-ткі ўдалося — завочна.

Настаўнічала спачатку ў вясковай школе, затым — у менскіх. Працавала ў Навукова-дасьледчым інстытуце педагогікі. Рагнеда Аляховіч — укладальніца некалькіх падручнікаў-хрэстаматый для школьнікаў, аўтар дапаможніка для настаўнікаў «Янка Брыль у школе».

## Сьв. пам. Міхася Баяроўскага

5-га красавіка ў Бірмінгеме (Вялікабрытанія) ва ўзросце 88 гадоў памёр адзін з найстарэйшых дзеячоў паваеннай беларускай эміграцыі Міхась Баяроўскі.

Міхась Баяроўскі нарадзіўся на Навагрaдчыне ў 1924 годзе, пад час вайны быў студэнтам беларускай Навагрaдзкай настаўніцкай сэмінарыі, пасьля курсантам беларускай афіцэрскай школы БКА ў Менску. Пакінуўшы Беларусь, ён неўзабаве далучыўся да антынацысцкага супраціву ў Францыі, скончыў вайну ў складзе 2-га корпусу генэрала Андэрса, Пасля вайны пасяліўся ў Англіі, дзе заставаўся на працягу доўгага часу адным з актыўнейшых сяброў Згуртаваньня беларусаў у Вялікай Брытаніі, кіраўніком аддзела арганізацыі ў Бірмінгеме.

Нягледзячы на сталы век і слабое здароўе, Міхась Баяроўскі да самых апошніх гадоў заставаўся актыўным дзеячам брытанскага беларускага грамадзкага жыцьця, а таксама жыцьця Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, карыстаўся агульнай пашанай і пакінуў па сабе сьветлую памяць.

## Дзяўчына па прозьвішчы Беларусь, якая ратуе Нью-Ёрк




У сьвеце літаратуры жанру "фэнтэзі" магчыма ўсё, і дадзеная навіна — лішняе таму пацверджаньне.

У ЗША выйшаў першы раман з серыі пра дзяўчыну па прозьвішчы Беларусь, якая павінна выратаваць Нью-Ёрк ад падкопаў таямнічай секты чараўнікоў.

Цыкл называецца «Хронікі муляра», а твор, які адкрывае яго, называецца «Алхімістык».

Аўтар эпапеі — амэрыканскі пісьменьнік Антон Страўт, публікуецца яна ў адным з выдавецтваў, якія належаць сусьветна вядомаму дому «Пінгвін».

«Аляксандра Беларусь — мастачка зь Нью-Ёрка, якая прабівае сабе шлях сама, нягледзячы на тое, што яе сям'я валодае буйной нерухомасьцю, у тым ліку і хмарачосам ў цэнтры парку Грамерсі, які быў пабудаваны яшчэ яе прапрадзедам». Але гісторыя сям'і хавае тайну. Пра яе Аляксандра даведваецца пасьля раптоўнага нападу на вуліцы, падчас якога яе ратуе нечалавеча моцная крылатая істота, якая ведае імя Беларусь.

Аказваецца, пра-прадзед быў масонам-чараўніком, — майстрам, ён рабіў цуды з каменю.

Атакаваны цёмнымі сіламі, ён пакінуў замову для абароны членаў сваёй сям'і. Цяпер, калі Аляксандра ў небясьпецы, адно з самых адданых стварэньняў пра-прадзедаў - гаргульля мужчынскага роду па імені Станіс - зноў вярнулася да жыцьця.

"Дзяўчына і гаргульля аднолькава зьдзіўлены тым, што зьвязаны разам. Але хутка разумеюць, што, толькі аб'яднаўшы намаганні, змогуць выратаваць горад, які яны абодва так любяць…" - такім пасажам завяршаецца анатацыя.

*Уладзімір Статкевіч, respublica.by*

## На выданьне "Беларуса" ахвяравалі:

| | |
|---|---|
| Сільвестр Будкевіч | $ 60 |
| Людміла Варанцова | $ 50 |
| Наталія Ганчарук | $ 75 |
| Яўген Груша | $ 50 (аўстрал.) |
| Марыя Данілюк | $ 50 |
| Міхась Калядка | $ 50 |
| Нік Касьцюк | $ 50 |
| Ліза Літаровіч | $ 60 |
| Парафія Сьв.Кірылы Тураўскага (Таронта) замест кветак на магілу А.Бушкевіча | $ 100 |
| Ларыса Пузач | $ 50 |
| Нік і Валерыя Сьнежка | $ 100 |
| Валянціна Трыгубовіч замест кветак на магілу Ф.Піскунова | $20 |
| Серж Трыгубовіч | $ 50 |
| Вячка Станкевіч | $ 50 |
| Джон Шыбут | $ 50 |

**Вялікі дзякуй усім ахвярадаўцам!**

**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
Выдае:
**Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне**
**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
Published by
**Belarusan American Ass'n, Inc.**

**Склад Рэдакцыі:**
Ганна Сурмач – адказны рэдактар (surmacova@gmail.com)
Алена Высоцкая – адказная за кампутарную вёрстку
Таня Красоўская – скарбнік, арганізатар падпіскі (premiere718@yahoo.com)
Галіна Падлеская – рэдактарка дзіцячай старонкі galinapodles@hotmail.com
Валеры Дворнік - адказны за друк
Натальля Старавойтава - адказная за рассылку газэты

Артыкулы падпісаныя прозьвішчамі ці ініцыяламі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не пагаджаецца.

**Адрасы Рэдакцыі:**
Паштовы адрас:
***Hazeta Bielarus***
***166-34 Gothic Drive***
***Jamaica, NY 11432***
***USA***
**Грашовыя чэкі выпісываць на імя :** ***BIELARUS newspaper*** дасылаць скарбніку на паштовы адрас рэдакцыі.
**Электронны адрас (email): bielarus@bazahq.org**
*Адказнасьць за зьмест рэкламы нясе рэкламадаўца.*